
ISSN 1991-3850


GS. BY

gazeta.slonimskaya

gazslonim

gazetaslonimskaya

gazeta_slonimskaya

GazetaSlonim

# Газета Слонімская



Агульнапалітычны штотыднёвік. Упершыню выйшла ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе. КОШТ СВАБОДНЫ

№38 (1163)
18 верасня 2019 года






## Пешеходный мост обещают построить к концу сентября

→2




## СЛОНІМЕЦ ПАСКАРДЗІЎСЯ Ў КАМІТЭТ ААН ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА

→4



## «ШТО ТЫ ЗРОБІШ, КАБ НАМ ЛЕПЕЙ ЖЫЛОСЯ, КАЛІ СТАНЕШ ДЭПУТАТАМ?» — ІДЗЕ ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА ВЫЛУЧЭННЕ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

→3




## МАРЫ ПРА БУДУЧЫНЮ ЗАВУЛКА БУДУЧЫНІ Ў СЛОНІМЕ

→4

АЛЛО, МЫ СЛУШАЕМ ВАС

Уважаемые читатели, если вам есть что рассказать, если вы стали участником интересной истории или свидетелем важного для города события, необычного происшествия, напишите нам: г. Слоним, ул. Красноармейская, 41, mail: anna@gs.by или сообщите по тел. 8 01562 29-000, 8 029 612-26-43, 8 044 560-70-54

ОПРОС

## НРАВИТСЯ ЛИ СЛОНИМЧАНАМ, КАК БЛАГОУСТРОИЛИ КАНАЛ ОГИНСКОГО?

**Нина Степановна:**



— Я хочу сказать спасибо тем людям, которые занимались благоустройством набережной. Они прекрасно все облагородили, окультурили, просто приятно. Я здесь рядом живу, хожу часто по набережной, и мне все теперь очень нравится. Ведь раньше здесь были камни, ходить было неудобно. Вот еще надо, чтобы кто-то обратил внимание на пляж, который находится на улице Черняховского. Его река подмывает, пляж уходит, поэтому надо берег Щары укрепить.

**Николай Николаевич:**



— Набережная преобразилась, она стала совершенной другой. Еще работы по благоустройству не завершены, мост должны сделать. Я считаю, что, по нашим меркам, это нормально.

**Валентина Федоровна:**



— Даже нет слов, все очень, очень замечательно, набережная преобразилась. Я помню времена, когда эта набережная была хорошо обустроена: была узенькая беговая дорожка, конечно, не такая красивая, как сейчас. Раньше, во времена моей молодости, здесь росли деревья, мы гуляли с детьми, а потом эта дорога пришла в страшное запустение. А сейчас просто красота.

**Жанна Александровна:**



— Стало очень удобно добираться на работу, дорога преобразилась. Я работаю в детском саду №9 и каждое утро хожу по этой дороге на работу и обратно возвращаюсь по ней. Здесь и территорию хорошо облагородили, и вырубили кусты, а то страшно было ходить. А теперь по набережной приятно пройтись даже в туфельках на каблучках в любую погоду. И людям, которые передвигаются на велосипедах, стало значительно легче это делать. Ведь раньше здесь дорога была ужасная, а после дождя вообще невозможно было пройти.

**Анна ВОЛОДАЩУК**
**anna@gs.by**
ФОТО АВТОРА



# Над Щарой появится новый пешеходный мост

**Пешеходный мост над Щарой, который ведет с улицы Огинского к мебельной фабрике, должны были построить к Дню письменности, но строители не уложились в обозначенные сроки.**

Сейчас на объекте рабочие ОАО «Пинскводстрой» активно ведут строительные работы: делают подходы к пешеходному мосту. Сваи уже забиты, стена, на которой будет стоять мост, возведена.

Пешеходный мост, по словам директора филиала Ивана Гелиса, будет красивее и шире того, который был ранее, и будет изготовлен из металлоконструкций. Основные работы по строительству моста, по словам Ивана Анатольевича, будут выполнены до конца сентября.

**Анна ВОЛОДАЩУК**
**anna@gs.by**
ФОТО АВТОРА



Спуск к воде возле спортивной школы





Идут строительные работы

## НА СУБОТНІХ ЛІНІЯХ БУДУЦЬ ЧАКАЦЬ ЗВАНКОЎ СЛОНІМЦАЎ



ФОТА SLONIM.GRODNO-REGION.BY

Алена Мачаліна

**У суботу, 21 верасня, пройдуць прамыя тэлефонныя лініі з чыноўнікамі выканкамаў. Традыцыйны час іх правядзення — з 9 да 12 гадзін.**

У Слонімскім райвыканкаме на лініі будзе дзяжурыць кіраўнік справамі Слонімскага райвыканкама Алена Мачаліна. Пазваніць і пагутарыць з Аленай Нікадзімаўнай можна будзе па нумары 5-03-11.

У Гродзенскім аблвыканкаме тэлефанаванні жыхароў рэгіёна будзе прымаць намеснік старшыні аблвыканкама Іван Жук. Івану Алейзавічу можна будзе распавесці пра свае праблемы і выказаць пажаданні па тэлефоне 8 0152 73-56-44.

**Жанна ІВАНОВА**



ФОТА REGION.GRODNO.BY

Іван Жук

НОВОСТИ

## С 10 СЕНТЯБРЯ СВИНЕЙ ЗАПРЕЩЕНО СОДЕРЖАТЬ ТОЛЬКО В СТАРОДЕВЯТКОВИЧАХ

**В деревне Стародевятковичи Слонимского района по-прежнему запрещено содержать свиней в личных подсобных и фермерских хозяйствах. В остальных населенных пунктах этих домашних животных выращивать разрешено.**


Иллюстрационное фото

Слонимский райисполком решением №936 от 20 августа 2019 года изменил территории, в пределах которых запрещено содержание свиней физическими лицами в личных подсобных хозяйствах граждан, в крестьянских (фермерских) хозяйствах и индивидуальными предпринимателями.

Согласно документу, теперь запрещено содержать свиней в подсобных и фермерских хозяйствах только в деревне Стародевятковичи Новодевятковичского сельсовета, так как недалеко от этого населенного пункта находится свиноводческий комплекс иностранного общества с ограниченной ответственностью «Белдан», проектная мощность которого составляет более 12 тысяч голов в год. Данное решение райисполкома 10 сентября было опубликовано на Национальном правовом интернет-портале.

С 2014 года по решению властей свиней было запрещено содержать в подсобных и фермерских хозяйствах в 14 слонимских деревнях, которые входили в так называемую буферную зону вокруг свиноводческих комплексов. Это деревни Озерница, Драпово, Клепачи, Волчки, Збочно, Мыслово, Суринка, Забулье, Раховичи, Гуменики, Стародевятковичи, Кошловичи, Хмельница, Гоньки.

— Сейчас буферную зону убрали во многих сельсоветах, так как свинофермы в районе закрылись, — прокомментировала ситуацию корреспонденту «ГС» в Слонимской районной ветстанции.

**Жанна ИВАНОВА**

ФОТАФАКТ

## СЛАНІМЧАНКА ВЫКАПАЛА 1,5-КІЛАГРАМОВУЮ БУЛЬБІНУ

**Сланімчанка Жанна Казлоўская сёлета на бульбяным полі выкапала проста гіганцкую бульбіну.**


Жанна Казлоўская з гіганцкай бульбінай

Караняплод заважыў больш чым 1,5 кілаграма.

Як распавяла Жанна, такая бульба вырасла на бульбяным палетку ў Баранавіцкім раёне.

**Жанна ІВАНОВА**

ВЫБАРЫ-2019


Збіраюць подпісы ў Востраве 12 верасня

# У Востраве і Міжэвічах збіралі подпісы за Віктара Марчыка

**Сёлета 17 лістапада ў Беларусі пройдуць выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сёмага склікання. Выбарчая кампанія цяпер знаходзіцца ў стадыі збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты.**


У Міжэвічах 12 верасня

На мінулым тыдні чарговыя пікеты па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Слонімскай выбарчай акрузе №58 грамадскія актывісты Віктара Марчыка прайшлі ў аграгарадках Вострава і Міжэвічы на Слонімшчыне.

Вяскоўцы падчас пікету падыходзілі да стэнду пазнаёміцца з прэтэндэнтам на кандыдацтва ў дэпутаты Віктарам Марчыкам.

Выбаршчыкі цікавіліся ў Віктара Марчыка, што ён зробіць, каб стала ўсім лепей жыць, калі стане дэпутатам. Мясцовыя жыхары таксама скардзіліся на праблемы з медычным абслугоўваннем у Слонімскім раёне. Адна з такіх праблем — у Слоніме няма кардыёлага і рэўматолага і невядома, калі яны з`явяцца.

Варта нагадаць, што па Слонімскай выбарчай акрузе №58 разам з вартаўнікам Слонімскага лясгаса і сябрам партыі БНФ Віктарам Марчыкам балатуюцца ў дэпутаты старшыня Зэльвенскага раённага Савета дэпутатаў Валянцін Семяняка, навуковы рэдактар з Гродна Васіль Герасімчык і слесар КВПіА ЖКГ са Слоніма Сяргей Бузун.

**Мікола КАНАНОВІЧ**
ФОТА З АРХІВА ВІКТАРА МАРЧЫКА

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Парушанае права слонімца зацікавіла Камітэт ААН па правах чалавека

**Слонімскі актывіст БХД Алесь Масюк атрымаў з Жэневы, дзе месціцца Камітэт ААН па правах чалавека, паведамленне пра тое, што ягоная скарга на парушэнне Рэспублікай Беларусь права на правасуддзе гэтым органам атрымана.**


Алесь Масюк

Для рэгістрацыі і далейшага разгляду звароту камітэт папрасіў прадставіць дадатковую інфармацыю і асобныя дакументы.

Праваабаронца са Смаргоні Алесь Дзергачоў, які дапамагаў Алесю Масюку рыхтаваць скаргу, патлумачыў, што адказы на пытанні і запатрабаваныя дакументы ўзмоцняць доказную базу. Таму ёсць упэўненасць, што скарга будзе зарэгістравана і прынята да разгляду.

Нагадаем, што падчас мінулагодніх выбараў у мясцовыя Саветы Алесь Масюк устанавіў, што агучаны на адным з выбарчых участкаў пратакол падліку галасоў паступіў у раённую камісію па выбарах у новай рэдакцыі са змененымі лічбамі. З гэтай нагоды Алесь Масюк звярнуўся ў Слонімскі раённы аддзел Следчага камітэта (РАСК) з патрабаваннем разгледзець пытанне аб распачынанні крымінальнай справы. Але РАСК адмовіў. Пры гэтым адмову аформіў не пастановай, як патрабуе Крымінальна-працэсуальны кодэкс, а шляхам накіравання заяўніку звычайнага адказу на зварот.

Не выключана, што РАСК гэта зрабіў адмыслова, пазбавіўшы Алеся Масюка магчымасці звярнуцца ў суд, бо абскарджанню туды падлягаюць толькі пастановы.

У выніку старшыня Слонімскага раённага суда Аляксандр Ярмолік, грунтуючыся на гэтай фармальнасці, адмовіў Алесю Масюку ў прыняцці скаргі на дзеянні Слонімскага РАСК. Затым старшыня Гарадзенскага абласнога суда Аляксандр Корзун у адказе на скаргу Алеся Масюка паведаміў, што дзеянні старшыні раённага суда Аляксандра Ярмоліка з`яўляюцца абгрунтаванымі.

Некалькі разоў звяртаўся Алесь Масюк са скаргамі на дзеянні Слонімскага РАСК нават у Генеральную пракуратуру. Апошні адмоўны адказ адтуль датуецца 19.03.2019 за нумарам 07-02-415, які падпісаў намеснік генеральнага пракурора, дзяржаўны саветнік юстыцыі 3-га класа Аляксей Стук. Асноўны яго аргумент палягае ў тым, што, паводле Выбарчага кодэкса, скаргі на выніке выбараў падаюцца ў 15-дзённы тэрмін з дня выбараў, які Алесь Масюк прапусціў.

З адказу вынікае, што магчымыя фальсіфікатары выбараў, на якіх не паступілі скаргі ў названы тэрмін, могуць працягваць камфортнае жыццё. Да шчасця, ні служачым Следчага камітэта, ні суддзям пры перапісцы з Алесем Масюком такая «шэдэўральная» думка не прыйшла ў галаву. Тым не менш з дзеяннямі судовай сістэмы краіны Алесь Масюк не пагадзіўся і накіраваў скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека. У ёй абвінавацію Рэспубліку Беларусь у парушэнні ягонага права на правасуддзе, якое гарантуецца артыкулам 14 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

**Мікола КАНАНОВІЧ**
**Паводле http://harodniaspring.org**
ФОТА З АРХІВА «ГС»

ГОРАД

# ЗАВУЛАК БУДУЧЫНІ Ў СЛОНІМЕ МАРЫЦЬ ПРА СВЕТЛУЮ БУДУЧЫНЮ

**Гэтая частка горада магла б стаць адным з самых прыгожых куткоў Слоніма і апраўдваць сваю назву — завулак Будучыні. Але замест гэтага ўжо на працягу дзесяцігоддзяў гэтае месца застаецца самым недагледжаным і забытым. І гэта прытым, што завулак знаходзіцца недалёка ад цэнтра горада.**

Пра яго не ўспомнілі нават падчас падрыхтоўкі да ўрачыстага святкавання Дня беларускага пісьменства. Незаўважаным і нікому не патрэбным ён застаецца і сёння.

Мінуўшы будынак былой гімназіі, павярнуўшы ў завулак Сінічкіна, а потым на вуліцу Ўз`яднання, я вырашыў спытаць, дзе знаходзіцца завулак Будучыні. Моладзь, хіхікнуўшы, спытала: «А што, у нас хіба ёсць такі?» Людзі старэйшага ўзросту здзіўлена на мяне глядзелі, паціскалі плячамі і ішлі далей. Я ўжо страціў надзею знайсці патрэбны мне адрас, як убачыў на лаўцы бабулю. Пачуўшы маё пытанне, яна ажывілася і пацікавілася, а хто мне там патрэбен, а потым паказала накірунак. Аказалася, я быў амаль на месцы — заставалася прайсці метраў дзесяць і павярнуць за вугал.


Дарога ў завулку Будучыні

Завулак Будучыні самаіранічна ўсміхнуўся мне, як толькі я на яго ступіў. Яго разбітая дарога была ўсеяная велізарнымі камянямі. Вымытая дажджом каляіна вяла проста да агародку аднаго з дамоў. Казалі, што раней тут была нават не да канца закапана газавая труба, і людзі з гэтай прычыны пісалі звароты да старшыні райвыканкама. Цяпер жа на мае пытанні пра гэта жыхары завулка адварочваліся і казалі, што ў іх усё добра.

Бязладдзе і безгаспадарлівасць тут мірна суседнічаюць з сучаснымі пабудовамі, добраўпарадкаванымі дамамі, дагледжанымі агародамі і моднымі іншамаркамі. Гарадскі кантраст... Рэальнасць, з якой людзям даводзіцца мірыцца, бо самі яны нічога зрабіць не могуць, а ў мясцовай улады і камунальнікаў ёсць справы і важнейшыя.

«Цяпер суха, але пачнуцца дажджы, і тут будзе ні прайсці ні праехаць», — адзначыла адна з жыхарак, якая пажадала застацца невядомай.

«А што рабіць аўтамабілістам? Нават летам трэба рухацца чарапашым ходам, каб не пабіць падвеску. Увосень і ўзімку — уяўляць страшна. Горка на гэта глядзець, бо мы не горшыя за астатніх. Суседнія вуліцы больш-менш упарадкаваныя, а мы — не. Але каго гэта хвалюе?!» — падводзіць рысу пад размовай іншая жанчына.



Шыльда на хаце


У завулку Будучыні ў Слоніме


Вароты ў двор

**Максім СУДЗІЛОЎСКІ**
ФОТА АЎТАРА

НАША ІНТЭРВ`Ю

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: «Хочаш мець правы — бяры іх»


Алесь Бяляцкі са сваёй кнігай у Слоніме

**14 верасня ў Слоніме пабывалі праваабаронцы і пісьменнікі Алесь Бяляцкі з Мінска і Віктар Сазонаў з Гродна. Асноўнай мэтай іх візіту ў Слонім была прэзентацыя кнігі Алеся Бяляцкага «Халоднае крыло Радзімы», якую ён пісаў у Бабруйскай папраўчай калоніі, адбываючы пакаранне за сваю праваабарончую дзейнасць.**

Пасля прэзентацыі Алесь Бяляцкі даў невялікае інтэрв`ю «Газеце Слонімскай».

**— Алесь, скажыце, чаму менавіта Слонім выбралі сёння для прэзентацыі сваёй кнігі?**

— Час настаў. Апошні раз я быў у Слоніме недзе ў сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя. У касцёле святога Андрэя тады быў нейкі склад. Я прыйшоў туды, трымаючы ў руках кніжку Валянціны Караткевіч (жонкі Уладзіміра Караткевіча) пра Слонім. Я хадзіў тады па горадзе і шукаў, што тут засталося з тых часоў, калі Слонім быў значным культурным цэнтрам Вялікага княства Літоўскага. Потым так склаўся лёс, што з тых часоў я не быў у Слоніме. Быў у Жыровічах, але не быў у Слоніме. І вось так атрымалася, што пасля адкрыцця помніка Льву Сапегу ў Слоніме, пасля свята Дня беларускага пісьменства, я прыехаў сюды, і адбылася такая цёплая і, здаецца, карысная сустрэча.

**— Калі абстрагавацца ад Слоніма, што сёння самае галоўнае ў нашым сучасным беларускім жыцці?**

— Самае галоўнае — нейкая стабільнасць, трываласць і нармальны ўзровень жыцця. Яшчэ вельмі важна — мець адчуванне бяспекі, што, на жаль, сёння наша дзяржава не дае, не можа забяспечыць. У нас таксама няма нармальнага суда, куды чалавек можа звярнуцца і дабіцца справядлівасці. Таму гэтым вымушаны займацца мы, праваабаронцы. Вельмі важна для кожнага чалавека мець стабільнасць у сваёй дзяржаве. Бо калі ўзгадаць Данбас і падзеі ў Крыме ў нашых суседзяў, то там сотні тысяч людзей штарміць, яны вымушаны зрывацца з месца, кідаць свой край, свае дамы і ўцякаць ад вайны. Вялізныя трагедыі творацца. І ў той жа час людзі, якія маюць сваю дзяржаву, сваю Канстытуцыю і законы, якія іх надзейна абараняюць, стаяць на сваёй зямлі абедзвюма нагамі.

**— У краіне цяпер ідзе выбарчая кампанія па выбарах дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў. Па нашай Слонімскай акрузе балатуецца вядомы на Слонімшчыне і за яе межамі грамадскі актывіст Віктар Марчык. Праваабаронцы, у тым ліку і ваш праваабарончы цэнтр «Вясна», заўсёды назіраюць за выбарамі. Скажыце, ці стрымлівае нейкім чынам прысутнасць назіральнікаў на выбарчых участках камісіі ад фальсіфікацыі пры падліку галасоў?**

— Не, ніяк не стрымлівае. Нашы назіральнікі не маюць магчымасці сачыць за падлікам галасоў. Беларускім назіральнікам бюлетэні наогул не паказваюць, замежным назіральнікам паказваюць праз адзін, але асноўны ўкід бюлетэняў за праўладнага кандыдата робіцца пры датэрміновым галасаванні, дзе паспяваюць прагаласаваць да 40% выбаршчыкаў. Што да складу камісій, то з іх павычышчалі фактычна ўсіх, хто не падпарадкоўваецца ўладам. Толькі 2% прадстаўнікоў ад палітычных партый увайшлі ў склад участковых камісій на сёлетніх выбарах. Што яны могуць зрабіць?.. Ні назіральнікі, ні апаненты ўлады не кантралююць падлік галасоў.

**— У такіх варунках якія правы чалавеку рэальна абараніць у сучаснай Беларусі?**

— Я думаю, што чалавеку рэальна абараніць усе свае правы, і гэта залежыць ад актыўнасці абаронцаў гэтых правоў. Пры пасіўным стаўленні чалавека ці грамады да абароны правоў чалавеку садзяцца на галаву і едуць. Толькі актыўнасць грамадзянскай супольнасці здольная абараніць правы чалавека. З апошніх прыкладаў у Беларусі — гэта Берасце. Там грамадская актыўнасць неабыякавых людзей за год паспрыяла таму, што хаця б было пастаўлена пытанне пра экалагічную бяспеку ў горадзе перад уладамі і будаўніцтва акумулятарнага завода прыпынілі. Але гэта патрабуе пэўных намаганняў і нават ахвяраў ад грамадскай супольнасці. Берасцейскім актывістам, якія выходзілі на акцыі пратэсту, гэта каштавала дзясяткаў адміністрацыйных спраў, а для блогера Пятрухіна — крымінальнай справы. Але ў гэтым жыцці нічога проста так не даецца. Хочаш мець правы — бяры іх. Канстытуцыя ў нас нармальная, там прапісаны ўсе асноўныя правы. Іншая справа, што нахабная цынічная ўлада піша пад сябе законы і разглядае народ як аб`ект, які можна эксплуатаваць і з якога можна жывіцца. Таму свае правы патрэбна адстойваць

**— І апошняе пытанне. Пра што сёння найбольш думае праваабаронца Алесь Бяляцкі і пісьменнік Бяляцкі?**

— Праваабаронай я займаюся ўжо 30 гадоў, пачынаючы з 1989 года, з «Мартыралога Беларусі», і пачуцця задавальнення ў мяне няма, бо асноўнай мэты — прававой дэмакратычнай дзяржавы — мы не дасягнулі. Тут наша асноўная задача не выканана і нам патрэбна працаваць далей. Што тычыцца мяне як пісьменніка, то пісьменства не мая галоўная задача ў жыцці. Маё жыццё складалася так, што ўвесь час прыходзілася займацца нечым больш важным. Галоўнае цяпер для мяне і для ўсіх нас (і для пісьменніка, і для кіроўцы, і для інжынера, і для рабочага) — гэта захаванне суверэнітэту краіны і стварэнне прававой дэмакратычнай дзяржавы. Над гэтым я працаваў і працягваю працаваць як праваабаронца і як пісьменнік.

**Мікола КАНАНОВІЧ**
ФОТА АЎТАРА



Падчас сустрэчы


Кніг з аўтографамі аўтара хапіла на ўсіх

НОВОСТИ ИЗ ГЕРМАНИИ

# Острый вопрос

**Последние годы ознаменовались в ряде европейских стран политическими дискуссиями, вызванными обсуждением законов о запрете ношения в учебных заведениях платков, хождения в чадре на улицах и тому подобное.**



Новые жители Германии. Иллюстрационное фото

Платок на голове носят девочки из мусульманских семей. Конечно, в значительной степени это был только повод, чтобы порассуждать о куда более серьезных вопросах, чем деталь одежды. Шесть миллионов мусульман во Франции, более трех миллионов в Германии — это не так и мало для стран, чья культура базируется на христианских традициях.

Некоторые историки сравнивают последние волны беженцев из Северной Африки, Афганистана, Сирии, Ирака и других стран с Великим переселением народов в прошлом, что стало тогда одной из главных причин гибели Римской империи. Многие политики все более откровенно признают крах надежд на интеграцию или ассимиляцию мусульман в Европе. Новоприбывшие продолжают жить в своем, расширяющемся из года в год своеобразном гетто. В некоторых крупных городах образовались так называемые «no go area» — районы с повышенной криминогенной ситуацией, заселенные преимущественно беженцами, создавшими свои криминальные кланы, куда полиция по вечерам предпочитает не заглядывать.

Мусульмане не особо горят желанием интегрироваться в местную жизнь, а тем более ассимилироваться среди местного населения. Опасение последних можно легко понять. Не надо никаких статистических данных — все видно невооруженным глазом: в немецкой семье рождается один-два ребенка, а в мусульманской — четыре-пять... Какая будет этническая картина в стране через 20-30 лет?! Хорошо стараются интегрироваться на новом месте только иностранцы, приехавшие из Италии, Польши, Испании, России... То есть из христианского окружения. Позитивно зарекомендовали себя в Германии также китайцы, индийцы, вьетнамцы.

Немецкие учителя постоянно жалуются, что многие мусульманские родители не пускают девочек на занятия по плаванию. Когда класс собирается в поход с ночевкой или едет на неделю в учебно-просветительскую заграничную поездку — опять мусульманки остаются дома. И подобных запретов существует немало...

В некоторых городских школах дети из мусульманских семей составляют 25-30%. В результате срывается учебная программа, ухудшается психологический климат в классе, усложняется работа педагогов...

Вопрос о платке нельзя считать чисто религиозным или эстетическим. Хотя политики, как основной аргумент запрета платка, отмечают светский характер школы в государстве, отделение школы от церкви и т.п., проблема тут лежит глубже. Политик обязан быть дальновидным, смотреть на пару десятилетий вперед, если он желает добра и процветания своему народу и стране. Мусульманская диаспора в Германии непрерывно растет. Кроме того, турецкие юноши с немецкими паспортами предпочитают привозить себе жен из дальних сельских районов Турции.

Приезжий турист на улице в Германии может от неожиданности вздрогнуть, напуганный мощным, усиленным через громкоговорители призывом муэдзина к очередной молитве. Для религиозных нужд мусульманские общины свободно покупают или арендуют помещения. По всей Германии быстро строятся новые мечети. Кроме того, не надо забывать, что мусульманский мир не представляет собой что-то единое. Кроме основных противоборствующих направлений — шиитов и суннитов — существуют и другие враждебные группировки, которые продолжают свою деятельность уже на немецкой территории.

Политический барометр в Европе в последнее время показывает усиление правых сил. Впервые за многие годы в Германии демократическим путем в некоторые земельные правительства вошли партии с ярко выраженной неонацистской окраской. Среди прочих причин, вызывающих «поправение» в Европе, аналитики отмечают и недовольство части коренного населения как той политикой, которую проводят их правительства по отношению к иностранцам, так и поведением самих иностранцев.

В Германии все еще надеются на успешную интеграцию прибывающих. Одно из последних решений немецкого правительства в этой области было такое: языковые курсы для иностранцев теперь станут обязательными. Кто откажется изучать немецкий язык, будет получать значительно меньшее социальное пособие.

8 сентября в Саксонии и Бранденбурге прошли выборы в местные Ландтаги. В обеих землях на второе место по количеству набранных голосов вышла партия Альтернатива для Германии (AfD ). Молодая партия, которую официальная пресса называет «правопопулистской», возникла всего шесть лет назад на волне недовольства, вызванного политикой правительства Меркель, по сути открывшего границы для массового потока беженцев из мусульманского мира. Сделают ли политики выводы из этих результатов — будущее покажет.

**Иван ХОХОЛ,**
**г.Зиген, Германия**

АНОНС

## ЗАВЕДУЮЩИЙ НОТАРИАЛЬНОЙ КОНТОРОЙ ПРОКОНСУЛЬТИРУЕТ СЛОНИМЧАН ПО ТЕЛЕФОНУ

**19 сентября с 9 до 12 часов пройдёт прямая телефонная линии с заведующим нотариальной конторой Слонимского района Еленой Сачек.**

Елена Николаевной проконсультирует жителей Слонима и района по вопросам, связанным с совершением нотариальных действий.

Звоните по телефону 8 (01562) 6-90-22.

**Микола КОНОНОВИЧ**

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

## «ЗА ПРАЦУ Ў ВЫХАДНЫ ДЗЕНЬ НАМ ДАЮЦЬ НЕАПЛАТНЫ АДГУЛ. ЦІ ЗАКОННА ГЭТА?»

**З такім пытаннем да карэспандэнта «ГС» звярнуўся па тэлефоне вадзіцель ААТ «Слонімскі водаканал» Аляксандр Бандалоўскі і папрасіў даць праз газету кампетэнтны адказ.**



ААТ «Слонімскі водаканал». Ілюстрацыйнае фота

— Па загадзе новага дырэктара нам часта даводзіцца працаваць ў выхадныя дні. Раней за працу ў суботу ці нядзелю прапаноўвалі альбо двайную аплату, альбо аплатны адгул. Апошнім часам за такую працу нам прапануюць браць неаплатны адгул. Ці законна гэта? — пытаецца Аляксандр.

— Пытанні кампенсацыі за працу ў выходныя дні рэгулююцца артыкулам 69 Працоўнага кодэксу. Ім прадугледжана, што за кожную гадзіну працы ў выхадныя дні робіцца даплата звыш заробку, налічанага за ўказаны час: работнікам са здзельнай аплатай працы — не ніжэй здзельных расцэнак, работнікам з пачасовай аплатай працы — не ніжэй гадзінных тарыфных ставак (акладаў).

За працу ў выходныя дні ўзамен даплаты са згоды работніка можа прадстаўляцца іншы неаплатны дзень адпачынку. Такім чынам, наймальнік не парушае закон, прадстаўляючы неаплатны адгул за працу ў выхадны дзень.

Апрача Працоўнага кодэксу, пытанне кампенсацыі за працу ў выходныя дні можа рэгулявацца працоўнай або калектыўнай дамовай.

Праца ў выхадны дзень дазваляецца па прапанове наймальніка і толькі са згоды работніка або па ініцыятыве работніка са згоды наймальніка, за выключэннем выпадкаў прадухілення катастрофы, аварыі, няшчасных выпадкаў. Дазваляецца выкарыстанне для працы не больш за 12 выхадных у год кожнага работніка (сюды не ўключаюцца выхадныя дні, калі работнік прыцягваўся да працы па прадухіленні катастроф, аварый, няшчасных выпадкаў), — адказаў на пытанне нашага чытача юрыст Алег Мацкевіч.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

